


## АБ ЦЭПЕ

У сваёй варшаўскай кватэры грымаю я бацькоўскі цэп. Прывёз я яго гадоў шэсць таму назад. Часам бяру яго ў рукі і кідаю на дыван. Маю ахвоту размахнуцца і ўрэзаць па падлозе. Аднак не зробіш гэтага ў кватэры, вышыня якой два з палова метра!

А ўвогуле хачу сказаць, што цэп ніякай прыемнай рэмінісцэнцыі ў маім сэрцы не выклікае. Наадварот — выклікае як найгоршыя ўспаміны. Чаму? Таму, што з гэтай прыладай звязаны мае шматгадовыя мучэнні. „Прафесійна“ пачаў я малаціць у часе акупацыі, ва ўзросце прыблізна 13-14 гадоў. Малаціў найчасцей з Аксенціем Даратынкам — жыхаром Масева, які быў выселены немцамі з роднай вёскі і жыў у свае дачкі, а яе хата стаяла на нашым панадворку. Я ўжо пісаў аб гэтым чалавеку ў фельетоне „Аб бацьках пушчы“. У тым часе клунька ў нас была вельмі мізэрная, нізкая, дзіравая, а дзверы трымаліся на адным віткавым завесе. І вось у гэтай клуньцы амаль усю зіму мы з Аксенціем Даратынкам малацілі збожжа. Парадокс заключаецца ў тым, што збожжа малоціцца найлепш тады, калі лютуюць найбольшыя маразы. З накаленых марозам каласоў параўнаўча лёгка сыплецца зерне. Аднак у час такога марозу чалавеку холадна. І хаця малацьба яго разагравае, то ўсё ж такі мароз прабіраецца праз фуфаечку да цела і пралазіць у мізэрны абутак. Наколькі касьба мела ў сабе сваё хараство, бо вакол зелянела зямля, спявалі птушкі і свяціла сонца, настолькі зімовы пейзаж цеснага панадворка не меў ніякага хараства. А найгоршае для мяне было тое, што малацьба вельмі мала эфектыўная. Я загараюся да работы толькі тады, калі бачу яе вынікі. Калі эфектаў няма — вельмі хутка знеахвочваюся. Малацьба мяне заўсёды знеахвочвала, бо па сутнасці вынікаў яе не было відаць. Залезеш у старану, скінеш на ток дванаццаць снапоў, але ў старане ніякай пазнакі не зробіш. А колькі ж часу трэба гэтых дванаццаць снапоў біць! Спачатку б'еш з аднаго боку, пасля з другога, пасля снапы трэба развязаць, разаслаць роўненька і зноў біць на два бакі, пасля вытрасці салому, звязаць у вялікія кулі і пасля яшчэ раз тую салому, якая асталася ад кулёў, малаціць на два бакі. У канцы выграбсці каласы і жыта засунуць пад сцяну. Штодзённы ўмалот трэба было пад вечар звеяць. Аднак веяў найчасцей не я, а бацька. Трэба сказаць, што вельмі прыгожа выглядалі пад вечар кулі саломы. Манументальныя, перавязаныя ў двух або і трох месцах, стаялі яны перад пуняй, як Бурбоны, і чакалі, пакуль не завалачэм іх на вышкі. Салома была роўная і прыгожая і надавалася на страху. І вось так дзень за днём, прынамсі на працягу двух месяцаў, малаціў я збожжа. Прызнаюся, ненавідзеў я гэту работу і ненавідзеў свой цэп. Варта яшчэ сказаць і аб тым, што біяк нярэдка зрываўся. У такой сітуацыі не было сэнсу чакаць, бо ніколі невядома, у якім месцы ўпадзе і ў ніякім выпадку нельга глядзець уверх, бо біяк можа ўдарыць у твар і выбіць зубы або вока. Трэба было прыгнуцца і чакаць, калі біяк упадзе. Найчасцей падаў на плечы.

Вялікім няшчасцем тых часоў былі клапы. Клапы гняздзіліся ва ўсіх хатах. Як вядома, гэты паразіт корміцца чалавечай крывёю. Памятаю дзяцей-равеснікаў, кожнае з іх мела пакусаную клапамі шыю. Мабыць, масавасць, з якой выступалі клапы ў тагачасных хатах, нарадзіла перакананне аб іх вечнасці і незнішчальнасці. Думаю, што гэта якраз спрыяла ўзнікненню легенды аб клапах, якую я чуў ад Даратынкі, а пасля і ад іншых малацільшчыкаў. Легенда, зрэшты, вельмі кароткая і таму можна яе пераказаць. Хлапец малаціў збожжа і на сваёй вопратцы злавіў клапа. Улажыў яго ў саломку, загнуў з двух бакоў яе канцы і засунуў у шчыліну ў бэльцы. Праз нейкі час пайшоў у армію. Служыў многа гадоў. Калі вярнуўся і пайшоў малаціць, успомніў аб клапе-вязні. Дастаў саломку, адламаў загнуты канец саломкі і моцна здзівіўся, калі адтуль выпаўз жывы і здаровы клоп. Другі варыянт гэтай казкі яшчэ больш каларытны. Гаворыцца ў ім аб тым, што з саломкі выпаўзла штук дваццаць клапоў, бо клапіха была цяжарная і там размножылася.

Ну, вось і ўсё. Думаю, што пасля сказанага мною не толькі старыя, але і маладыя чытачы зразумеюць, чаму я ўсё ж такі бацькоўскі цэп прывёз у Варшаву і чаму, калі бяру яго ў рукі, будзяцца ў маёй душы ўспаміны, а мае пачуцці да гэтай прылады бліжэйшыя нянавісці, чым любві. Трэба сказаць, аднак і тое, што кароткая малацьба ў практорнай пуні і асабліва на тры цапы не пазбаўлена музыкі і паэзіі.

**А. Барскі**

Увага, чытачы, настаўнікі, прыхільнікі „Нівы“! Ветліва паведамляем, што падпіска на „Ніву“ на чацверты квартал бягучага года прымаецца ў Беластоцкім ваяводстве да 24 верасня ў „Руху“ і да 20 верасня — на пошце. Просім не адкладваць: „Ніва“ — ваш прыяцель!

# УСЁ АБ НАВУЧАННІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**(Працяг са стар. 1)**

настаўнікаў у гэтай палове са спецыяльнасцю пачатковага навучання. І яны добра спраўляюцца з беларускай мовай, яны наогул навучаюць у пачатковых класах, а мову ведаюць з сярэдніх школ. Старэйшыя настаўнікі амаль усе бывалі на курсах у Мінску, некаторыя па некалькі разоў, значыць і такім чынам павысілі свае кваліфікацыі.

Справа падручнікаў. Праблемай з'яўляецца недахоп падручнікаў для III і VI класаў — тут масавы недахоп. Адзінкавы недахоп, які зрэшты павялічваецца, маем з падручнікамі да VII і VIII класаў, іх проста пачынае не хапаць. Паводле інфармацыі Школьнага і педагагічнага выдавецтва мае паявіцца новы падручнік для III класа на новы навучальны год. Падручнік для VI класа знаходзіцца ў друку і, праўдападобна, выйдзе, так абяцае выдавецтва, на наступны навучальны год — 1988/89. Здадзены ў друк падручнік для II класа. Падручнікі для VII і VIII класаў трэба перапрацаваць, але яшчэ няма аўтараў.

— А як вы ацэньваеце прыдатнасць існуючых падручнікаў і што трэба было б пашырыць ці звузіць пры іх перавыданні?

— Падручнікі наогул добрыя, адлюстроўваюць рэчаіснасць, блізкую дзіцяці. Падручнік для VIII класа нязгодны з праграмай. Для пачатковых класаў — замалы друк, але ў гэтым віна выдавецтва. Для пачатковых класаў падручнік павінен быць каляровы, з ілюстрацыямі, каб і выглядам сваім прыцягваў дзіця. Але ў выдавецтве гавораць што гэта дарагая рэч і для беларускай мовы рабіць гэта не аплачваецца. Ці гэта праўда, што нельга даць колераў? Ці для гэтых падручнікаў так многа фарбы трэба?

Дапаможнікі. Многія настаўнікі выконваюць самі танныя наглядныя дапаможнікі. А дапаможнікаў-кніжак у бібліятэках няма. Паасобныя настаўнікі маюць такія кніжкі ў сваіх прыватных бібліятэках і карыстаюцца імі. Вялікімі дапаможнікамі, карыснымі ў практыцы, з'яўляюцца дапаможнікі з іншых прадметаў, напрыклад, польскай ці рускай моваў. І такія дапаможнікі таксама выкарыстоўваюцца. Малое зацікаўленне ў настаўнікаў метадычным часопісам „Народная асвета“, які выдаецца ў Мінску. На яго можна зрабіць падпіску і некаторыя школьныя бібліятэкі робяць такую падпіску штогод. У гэтым часопісе можна знайсці і метадычныя, і педагагічныя, і чыста практычныя матэрыялы.

Аб праграмах. Пераапрацоўкі патрабуе праграма для VIII класа. Праграмы іншых класаў прыдатныя.

— Як ацэньваеце курсы ў Мінску?

— Калі хто хоча, то навучыцца, бо ёсць шырокія магчымасці скарыстаць з лекцый, якія чытаюцца выкладчыкамі па літаратуры, мове, методыцы навучання, па гісторыі БССР. На лекцыях музыкі вывучаюцца песні для дзяцей. Заўсёды даюцца дапаможнікі па навучанню беларускай мовы, можна і купіць многа карысных кніжак, якія тут нам недаступны. Вельмі прыгожыя выданні энцыклапедый, слоўнікаў і іншых кніг.

Іншая справа — трактоўка курсаў самімі ўдзельнікамі — хто з якой мэтай едзе на курс. Ці прынесці карысць грамадству, узбагаціць свае веды і сваю бібліятэку дапаможнікамі, ці з іншым намерам. Бывае па-рознаму. Міністэрства асветы арганізуе курсы для н а с т а ў н і к а ў беларускай мовы, а вельмі часта выязджаюць дырэктары, інспектары. Думаю, што тут парушаецца права. У выпадку курсаў нямецкай, рускай, англійскай моваў выязджаюць за граніцу толькі настаўнікі. Не назіраецца, каб быў там хто іншы.

Часта на канферэнцыях, якія адбываюцца ў час такіх курсаў, чуецца з боку настаўнікаў нараканне на недахоп кніжак, цікавай мастацкай літаратуры. Аднак такі вось прыклад: былі мы аднойчы на сустрэчы з рэдакцыяй выдавецтва „Мастацкая літаратура“. Сустракаўся з намі Серафім Андраюк, ён сам родам з Градалёў, выехаў з сям'ёй хлапчуком. Ён ад імя выдавецтва падрыхтаваў нам многа кніжак. Можна было выбіраць колькі хочаш. Я заўважыла, што адны стараюцца ўзяць як найбольш, а іншыя — проста сімвалічна, абы не быць чорнай авечкай.

Вельмі дзіўная справа, што ўсе горнуцца на курс у Мінску, а калі хацелі мы арганізаваць такі курс у нас у краіне пры Аддзеле удасканальвання кваліфікацый настаўнікаў, то не было зусім ахвотных. Вялікія намаганні і захады рабіў і ОДН і Куратарыя, каб такі курс арганізаваць, я шукала кандыдатаў і не выйшла. Трэба было хоць дзесяць асоб і не знайшлося.

— Калі была гэтая спроба?

— У 1983 годзе.

— Як вы ацэньваеце прыдатнасць „Зоркі“ і „Нівы“ ў навучанні беларускай мовы і якія вашы пажаданні?

— Школы маюць як бы абавязак падпіскі на „Ніву“. Аднак гэта справа не ідзе ў пары з выкарыстоўваннем яе на ўроках. Практычна — то „Зорка“ павінна служыць пачатковым класам, а „Ніва“ — для старэйшых. Аднак не заўсёды знойдзецца там матэрыял, які можна выкарыстаць. Добра было б адлюстроўваць гадавіны з дня нараджэння паэта, пісьменніка — класікаў беларускай літаратуры, гістарычныя падзеі, дзяржаўныя святы. Добра было б (гэтае пытанне стаяла і на канферэнцыі ў Гайнаўцы) даваць фрагменты ці адрэзкі цікавай кніжкі і падбіраць іх так, каб кніжка стала блізкай чытачу.

У „Зорцы“ — даваць галаваломкі, загадкі, адгаданкі, гэта вельмі прыцягвае дзяцей. Таксама каміксы. Пісаць пра тых, хто яе чытае. Можна таксама ў адрэзках даваць доўгае апавяданне, ці фрагменты цікавай кніжкі, толькі кароценькія, каб дзіця не змучылася. Трэба даваць рэпертуар для дэкламатарскага конкурсу — вершы, прозу і сцэнкі для школьных тэатраў. Усё гэта патрэбна. Бо і дзеці і настаўнікі шукаюць такога матэрыялу, а не ўсім ён даступны.

Размову запісала
**Вера Валкавыцкая**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 339


## ЯБЛЫНІ Ў ВЕРАСНІ І ВЕЦЕР

Яблыні ў верасні,
Быццам маладыя маці,
Усе ў праменнях, золаку,
Цэлыя румянкацца абнятыя,
Бляскам радугі спавітыя
І сочнай, звонкай песняй.

Непакорны, упарты вецер
Ужо даўно спыніўся.
Перад кронамі-калыскамі
Упаў ён на калені, моліцца,
Каб на стале быў хлеб надзённы
І мір над светам.

А ў гарадоў вялікіх,
Дзе сонца ўсход закрыты,
Дзе на тратуарах гоман,
Дзе з раніцы да ночы
Выюць ды гудуць машыны,
Сёння надзеі просіць —
Бязвіннай цішы.

**Юрка Баена**

* * *

нэ старайся буольш чуті
— ужэ за всё отвічаеш
нэ заклінайсь
— бэрэг пудплывэ

завіэр часові
— злуость гаснэ бэз болю

стыгнэш
і сіляеш слёзы бы рабіну
а як трохі помаліэй і тішэй

нэ іді до ворожэюв
сэбэ нэ поховаеш

моўчы
хай думают што хочут

**З. Сачко**

## РУЖА

Дам табе ружу
колеру гарачай чырвані,
—
ружу, якая мяне раніць,
як твае словы,
—
чаму ж не адчуваю іх цяпла?

**Жэня Мартынюк**

* * *

падаюць дні як зоры
ў глыбокую студню
вечнасці
шалее спеў у полі
і крык грукоча
пад калясніцай
лакранаеш сэрца майго
а каменні пацалункаў
будуюць дом
турму
крэпасць
сусвет невядомай будучыні
шчасце зменлівае...

**Яніна Шостак**

## З „Вясёлых смуткаў" Т. Катарбінскага

выбрала і пераклала Алена Анішэўская

Глядзі, як мучуся, — скрэндзіла Ева да Адама, —
Каб звіць з лісця для нас абоіх адзенне.
Той жа гультай ляжаў, злажыўшы рукі,
Ажно прыдумаў ён іголку ў задуменні.

✲

Такая цішыня.. тут затрымаўся час на адпачынак.
Нічога не змяняецца, плыве вялікі воблак сіні.
Спакой, звястун неіснавання,
Застыў маўклівa ў шкляным павуцінні.

✲

Калі у хаце радасць — весяліся, а калі госцем смутак —
Шукай ў сваім нутры вясёлкавай крыніцы!
Няхай вясёласць над журботаю пануе,
Быццам святло ад сонца над цямніцай.

✲

Не працягвай рук па вялікае, мой чалавечак.
Сягай па тое, што табе магчыма.
„Разумным быць" — высокія то ўзлёты
Хопіць, калі пазбудзешся дурноты.

✲

Для тых, што скардзяцца на часу недахоп,
Магу я з вопыту свайго метад прывесці:
Да ўсіх сваіх заданняў і клапот
Дадай яшчэ адно — і час знойдзецца дзесьці.

✲

Як сабе хочаш, абстракты залічай,
Канкрэтаў сцеражыся! Бывае з імі дрэнна...
Адзін і адзін — быццам заўсёды два,
Адзін ды адна?.. Выходзіць: тры! — несумненна.

✲

Прыйшла пара ўжо на старэчу,
Ў пасцель ўтуляецца усё часцей, часцей,
Што дзеецца вакол яго на свеце —
Яму ўжо з кожным днём усё раўней, раўней.

✲

Аслеп Пятро, аглох ўжо Павел. Ці можаш тут акрэсліць,
Каму з іх лепшы лёс дастаўся?..
Здаецца, лепш таму, хто ў старасці не бачыць мін варожых,
А мо таму, хто не пачуе слоў крыўдных, непрыгожых...

✲

Лячыў карову канавал — плацілі яму багата,
Пастуха лекар лячыў — мізэрная заплата:
Кажуць таму, што першы — быццам аб прадукцыі малочнай
дбае,
Калі другі ўсяго што пастухам дапамагае.

✲

Смейся ў кампаніі, цярпі ў адзіноце,
Калі ў грудзі нажом няшчасце ўлезе,
Нясі сваю бяду самотна,
Быццам заяц, падстрэлены ў лесе.

✲

Сярод галоў разумных зрадзілася патрэба,
Каб пекла замяніць у неба.
Аднак жа хутка ахвота тая аслабла,
Таму што гэтай працай заняліся д'яблы.

## НА ГАНКУ Ў ПРАДВЕСНЕ

Вясна ў той год ішла марудна і з халадамі. У месячныя ночы з'яўляліся прымаразкі з інеем, ад маянтковых саджалак далятаў крык вялікай птушкі. У хаце было цёмна, не хацелася запальваць святло. У бок Астравоў то гудзеў, то заціхаў трактар, быдта сувязны кукурузнік над партызанскімі лясамі ў забытую вайну. Не браў сон, а вышаўшы на ганак, можна было пачуць нізкі і хуткі лёт дзікіх гусей, відаць, на Свіслацкія багны. У такую ясноту страшнавата на падворышчы, ад густога цяню хлява і стадолы, пад якімі, здаецца, нехта чакае цябе...

На Выганскай вуліцы, зусім унізе, загаварылі мужчыны (настойлівы сіплы голас). Дзіўна, бы жывы смех у смутны сон, хоць і бяссэнсавы, але ўсё роўна не вясёлы. Прыбілася ў галаву сцішнае, як лятучая мыш: „А ці ўжывешся з кімсьці, хто няздольны быць рады не ад свайёй удачы?" — ужо няшмат пытанняў пасля гэтага.

Застацца дарэшты аднаму-адным і пра нішто не думаючым, зрабіцца непатрэбным нават самому сабе, аж абыякавым на голад і холад, — гэтак ад стомы жыццём. Яно пяройдзе, накшталт застуды якое. Не бясследна, аднак жа, усё пакідае нешта за сабою. Так поўняцца гады кожнаму, — каму памалей, у таго і больш трывушчасці. Мудрасць гэта, каб пабыць на свеце не спяшаючы? Хто яго ведае... Ну, а з кім? — дапытлівасць, якой няма толькі на могілках.

...Асела ціш, цемнач ані варухнецца. Свяціліся лямпачкі, рассыпаўшыся местачковым Млечным Шляхам у чорнай бясконцасці, якая прападае тут у світанак, з трэцімі пеўнямі і пры першай гамане ля калодзежа ў сялянскім завулку.

**Сакрат Яновіч**

„Белавежцы" ганарацца перш за ўсё паэтычнай творчасцю. Васіль Петручук — адзін з нешматлікіх празаікаў „Белавежы" — упісаўся ў гэты літаратурны рух замалёўкамі і апавяданнямі, каштоўнымі не толькі ў літаратурным аспекце, але і як дакументальны запіс неабыякавага значэння для вясковай Беласточчыны*).

Васіль Петручук піша як адчувае, захоўваючы аўтэнтычнасць здарэнняў. Лёс Васіля — сіраты, пазбаўленага дзяцінства, лёг, безумоўна, цяжкім ценем на яго апавяданні. У сувязі з гэтым нельга дамагацца ад іх усебаковага вобразу вясковага жыцця тае эпохі.

Ды і што ж прыемнае магло ўрэзацца ў памяць дзіцяці, якога ніхто ніколі не ўзяў на рукі, не пагладзіў па галаве, не назваў ласкава, якому нельга было хацець есці, спаць ці вучыцца, марыць аб уласным абутку але воля-няволя, трэба было бегаць на загад мачыхі, цярпець яе пагрозы, знявагі і штуршкі, дрыжаць ад холаду, сплючы на лаве пад закарэлаю дзяружкай, а ў прыступе гневу мачыхі шукаць нанач прытулку ў цялятніку?




Петручук, хоць і з'яўляецца фактычным героем драматычных падзеяў, у сваіх успамінах не намагаецца аднак паказаць сябе як мучаніка ці героя. Стараецца ён перадаць чытачу аўтэнтычныя думкі і паставы Васі з таго часу — хлопца, які лічыў сваю працу абавязкам, меў свой гонар, які не дазваляў яму папрасіць у чужых есці, хоць быў галодны аж да знямогі, ці паскардзіцца на бязлітаснасць мачыхі, або расплакацца ад нанесенай яму кім іншым крыўды. Безабаронны, ён пагаджаўся са сваім лёсам, але разам з тым, ведзены развітым інстынктам самазахавання, сваімі спосабамі дбаў пра жывот, каб утрымацца пры жыцці. З аднолькавым аб'ектывізмам, не цураючыся самакрытыкі, ацэньвае ён свае ўчынкі іншых герояў.

Памяць аўтара, спалучаная з яго здольнасцямі апавядальніка стварае літаратурную ніць для паасобных апавяданняў, якія здаюцца адарванымі адно ад другога, аднак у выніку складаюць цэласць.

Характарыстыкі яго герояў быццам не намераныя, але настолькі выразныя, а падчас і дасціпныя, што маглі б паслужыць дасканалай сыравінай для карыкатурыста. Жудасна лютая мачыха, пахмурны са сваёй прыкіднай абыякавасцю (ад страху перад жонкай) бацька, маўклівы Іван Шэшка з яго садыстычнымі схільнасцямі, гультаяваты і прымітыўна дасціпны

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 1)




ка з праўдаю, то лепей маўчаць, замест клеіць з сябе махлярскага дурня. У наш час сіла і моц „Нівы“, можа быць, не ў тым, што беларуская яна, але ў тым, што шчырая. Я штораз часцей чую добрае слова пра „Ніву“. І трэба „Ніве“ пільнавацца, як той паненцы, бо давер даецца надта ж цяжка і доўгімі гадамі, а страчваюць давер хутка (даволі адзін раз намахляваць, каб перасталі табе верыць назаўсёды!).

Трэба даць рубрыку: „Гутаркі з гаспадарамі“. Кароценькія, просценькія ў сваім слове, пісаныя крыху пад дыялект. Ведаю, як гэта цяжка. Захацела я зрабіць такую гутарку, пайшла ў Янава, што каля Нараўкі, хадзіла з хаты ў хату і аніводзін тутэйшы гаспадар не захацеў быць „упісаны ў газэту“. Адны Нічыпарукі згадзіліся.

„Ніва“ павінна быць, як сваяк. Тады яна выжыве.

Ну, а чаму маладыя кідаюць вёску? Гэта ж даволі прачытаць варшаўскі тыднёвік „Палітыка“ ад 27 чэрвеня г.г., каб ясна зразумець цэлы комплекс прычын проста панічных уцёкаў моладзі ў гарады. Горад безупынна патрабуе новых рук для працы, стварае добрыя ўмовы. А вёска? Што дае вёска, акрамя грошай, якія можна мець шмат лягчэй і ў горадзе, на фабрыцы?! Вёска дае работу ад усходу і да захаду. Пакуль у вёсцы будзе так цяжка, то ніколі не будзе толку ў гэтых справах.

Трэба памятаць у такой дыскусіі, што работа на зямлі надалей застаецца ганьбаю, гаспадар — гэта нешта горшае, нават ад найгоршага гараджаніна. У гміне, і ў той гаспадар трактуецца, як прыдурак які амаль што! І ўсе і ва ўсім робяць яму страшэнную ласку, калі з чым прыходзіць ён. І вугаль той прадаюць гаспадару так, што ён павінен за гэта як бы ногі цалаваць кладаўшчыку, і будаўнічыя матэрыялы гэтак жа, не кажучы пра машыны, за продаж якіх трэба ўжо невядома што ўчыніць і „даць у лапу“. Можна пералічваць тут падобнае без канца. Словам, чалавек вёскі — гэта анахранізм, гэта ўсё роўна як памылка прыроды якая. „Няхай прападае вёска, менш людзей нешчаслівых будзе на свеце!“ — сказаў бы нехта.

Нават алкагалізм у вёсцы страшнейшы, бо такі вясковы п'янюга ўсё пацягне на гарэлку, свінчо з хлява, і жонка яго галадаць будзе. А ў горадзе — дудкі! — жонка зарабляе свае грошы. І не вельмі ён прымусіць яе даць яму есці, хоць пахлёбкі. Скажа: „Вон, лахудра, а як не, то міліцыя зараз тут парадак з табою зробіць!“

Усё даражэе і даражэе, ужо нават не з году ў год, але з месяца ў месяц. Падаткі штораз большыя, не кажучы пра паслугі ці мінеральныя ўгнаенні. Праўда, павышаюць цэны і на прадукты, аднак не настолькі, каб гаспадар змог дагнаць дарагоўлю. Кажуць мае суседзі: „А каго ж маюць даіць, як не дур-

(Працяг на стар. 5)






*Стары Беласток. Баяры. Мал. Уладзіслава Петрука.*

Хаця мінула ўжо шмат часу, аднак хочацца мне падзяліцца на старонках „Нівы“ сваімі ўражаннямі з цікавага падарожжа па нашай зямлі. Прайшло яно 27-30 чэрвеня г.г. па маршруту Бельск (Студзіводы) — Кнарыды — Мокрае — Падбелле — Дубяжын — Краснае Сяло — Шашылы — Сакі — Залешаны (каля Кляшчэляў). Быў гэта першы рэйд беларускіх школьнікаў „Лета-87“.

Наступілі канікулы — пара адпачынку для школьнай моладзі. Вось і нагода, каб прайсціся па роднай зямлі. Група моладзі сярэдніх школ (члены тэатра паэзіі „Парнас“, вучні беларускіх ліцэяў Бельска і Гайнаўкі і іншых школ) задумала правесці такі рэйд. Як задумалі, так і зрабілі, хаця нялёгка гэта далося. Некаторыя з дарослых быццам бы і памагалі пры гэтым, але так, быццам бы рабілі вялікую ласку. Аднак як там не быбо, але найважнейшае, што вучнёўскі рэйд адбыўся. І мне пашчаслівілася на ім быць (хаця не вучань я), за што дзякую маладым. І так я, з багажом гадоў удвая большым за вучнёўскі, прайшоў шляхам рэйду.

Як жа часта дарослыя наракаюць на моладзь! Але чаму? Варта пазнаёміцца бліжэй з маладымі. У іх нам, дарослым, можна нават і павучыцца сур'ёзнасці, павагі ды адказнасці, не гаворачы пра ахвоту пазнавання ці радасці жыцця, весялосці.

Маршрут рэйду яны самі падрыхтавалі, знаходзячы цікавыя і гістарычныя месцы на сваёй зямлі. Такім чынам наведалі мы магілы нашых продкаў (часта забытыя), памятныя ў гісторыі месцы, помнікі беларускай матэрыяльнай культуры. Былі сустрэчы з мясцовым насельніцтвам. Знаёміліся з красой роднай прыроды.

## БЫЎ І ЎСЁ БАЧЫЎ

Удзельнікі рэйду стварылі дружную і цікавую групу турыстаў. Паводзілі сябе весела, але культурна і гэта сімпатычна ўспрымалі сустрэчныя людзі. Вечары праводзіліся каля вогнішча. Разам з удзельнікамі рэйду гуртаваліся пры іх і мясцовыя жыхары, пераважна моладзь. Тады ў летні рамантычны вечар плылі беларускія песні. Была і Купальская ночка з паэзіяй нашага песняра Янкі Купалы, з пусканнем вянкоў на ваду, скаканнем праз агонь і з чарадзейнай кветкай шчасця.

Удзельнікі рэйду выступілі з тэатральнай пастаноўкай „Вясёлыя жабракі“ проста на вясковай вуліцы. І хоць ішоў у той час дождж, гледачы з зацікаўленнем акружалі артыстаў, забываючы, што мокнуць. Кожнае спатканне рэйду з людзьмі ўпрыгожвалася песнямі, жартамі і дабразычлівымі ўсмешкамі.

Наша мілая моладзь патрапіць культурна весяліцца, але таксама ўмее быць сур'ёзнай, памятаць пра тых, што аддалі сваё жыццё за тое, каб магчымая была сённяшняя радасць жыцця. На месцах змагання за чалавечнасць, ля помнікаў ахвярам барацьбы за справядлівасць моладзь клала палявыя кветкі, пераважна сінявокія васілёчкі, як сімвал удзячнасці. Не было пры гэтым банальнасці слоў ці параднасці, былі толькі хвіліны рэфлексіі і шчыры паклон маладых сэрц.

Напэўна група гэтых беларускіх вучняў пакінула на трасе свайго рэйду добрыя сляды. Бясспрэчна, быў гэта цікавы і карысны ўрок на канікулах, які правяла сама моладзь. Дзякуй вам за гэта, маладыя сябры.

**В. Хрысціпін**

(Працяг са стар. 3)




ды вульгарны Ціхон, пагрозлівы суседзям, але гнуты падлізнік уладам дзед Павел, выдатна здольны і са сваімі шызафрэнічнымі ўяўленнямі Сахар ды шэраг іншых герояў апавяданняў складаюць цэлую галерэю чалавечых тыпаў. Аднак тыя адзінкі з рознымі характарамі і ўласнымі вартасцямі ствараюць у комплексе апавяданняў акрэслены тып разнастайнай і складанай грамадскасці. Лёс кожнага з іх звязаны ўмовамі жыцця з лёсам цэлай грамады, пазначанай шчырасцю аж да вульгарнасці, прастатою, пазбаўленай прыкідлівасці, двухаблічча і позы. Апісваючы быццам звычайныя справы, Петручук востра высвятляе невядомыя чытачу сённяшняга пакалення завулкі тадышняга жыцця беларускай вясковай грамады, паказвае пякучую сацыяльную праблему і адсутнасць праблемы культуры, у кожным выпадку культуры ў інстытуцыяльным сэнсе. Людзі, змораныя неэфектыўнай працаю, пазбаўленыя сацыяльнага забеспячэння, абмежаваліся адно да змагання за свой біялагічны быт. У змаганні гэтым кіраваліся сваімі звычаямі і сваімі нормамі права. Асноўным дзейнікам рэалізацыі таго права ў адносінах да іншых была перш за ўсё падсвядома накопленая цяжкасцю жыцця фрустрацыя, што ў канфліктных сітуацыях узрывалася, часта зацямняючы сэнс канфлікту і намераную ўдачу, у залежнасці ад тэмпературы тых фрустрацый і моцы выбуху той злосці. Бацька біў да паўсмерці Карузэліка за тое толькі, што конік, недагледжаны, завярнуўся з возам збожжа ў другі бок. Шэшка невядома чым скончыў бы сваё катаванне перакінутага на грузкую вуліцу Васі за тое, што дражніўся з Бурыкам, калі б людзі не выратавалі хлопца. Мачыха да непрытомнасці збівала Васю абы за што, ці нават за прыдуманую віну, як напрыклад, сапсаванне мячыка ці за спушчаны ў калодзеж кубак, так як і карала яго адзінага прыяцеля, заморанага сабачку, за тое, што задушыў курку. Розніца меры той кары мачыхі была толькі такая, што Бурыка яна забіла, а Вася застаўся ў жывых. Ці ўсё ж такі, можа, злітавалася над дзіцём? Абсалютна не. Вася быў ёй патрэбны для працы.

Апавяданні на гэтую тэму ў кніжцы Петручука выклікаюць дзве вядучыя рэфлексіі. Першая: агрэсія супроць кагосьці ці чагосьці ні ў адным выпадку не была прадуманая, не мела характару арганізаванага падыходу і не выклікала пачуцця помсты (не ўлічваючы чаўпасы маладых фарсуноў-галаварэзаў). Другая: праява агрэсіі адбывалася ў кожным выпадку на безабаронных ці слабейшых. Хіт-

# ШТО ЧУВАЦЬ НА БУДОВЕ?

Год назад „Ніва“ паведаміла аб пачатку пабудовы школы ў Нарве. Гэтай мясцовасці, грамадскаму і культурнаму цэнтру з сядзібай гміны, даўно ўжо была патрэбна новая школа. У старых, яшчэ даваенных драўляных будынінах усё цяжэй было змясціцца дзецям са значнай часткі гміны, а тым больш утрымаць зносныя ўмовы навучання, а зімой — мінімум цяпла.

І вось будуецца новая школа. Бацькі і дзеці з нецярплівасцю пазіраюць у яе бок; хоць бы хутчэй, хоць бы дзеці яшчэ паспелі тут павучыцца, пакуль скончаць васьмігодку.

Будынак расце прыгожы, шматпавярховы. Будзе 18 прасторных класных пакояў. Побач — трошкі ніжэйшая частка, так званая сацыяльная, прызначаная пад сталоўку і школьную адміністрацыю. Ад яе лучнік вядзе да будучай гімнастычнай залы. Першыя яе формы ўжо таксама вырысоўваюцца з агульнай будаўнічай пляцоўкі. Па другі бок школьнага пляца — вялікі жылы будынак для 18 сямей настаўнікаў.

Будуе школу Бельскае прадпрыемства сельскагаспадарчага будаўніцтва. Добрая, салідная фірма. Яшчэ пры распачацці будовы яе дырэктар Ян Мікалушка абяцаў, што пабудова пойдзе спраўна, і, калі не будзе нейкіх аб'ектыўных перашкод, будаўнікі пастараюцца паскорыць здачу ў карыстанне хоць галоўнага будынка. Заканчэнне ж усяго школьнага комплекса плануецца на 1989 год.


Найлепшы аператар машын Станіслаў Анушка на будове школы.


Заканчваецца пабудова галоўнага дыдактычнага корпуса школы ў Нарве.

І вось галоўны будынак школы стаіць пад дахам. Ідуць работы ў сярэдзіне. Будаўнікі маюць намер ужо напярэдадні гэтай зімы ўпусціць дзяцей у новы будынак, каб не мерзлі ў старым, бо ў новым будынку будзе і цэнтральнае ацяпленне, і нават цёплая вада, не гаворачы ўжо аб прасторных і відных класах. Аб гэтым паінфармаваў „Ніву“ начальнік гміны ў Нарве Міхась Гацута, а пацвердзіў майстар будовы школы Антон Рамаidoўскі.

Рабочыя сімпатычна прынялі візіт „Нівы“ на будове. Аператар машын, добры і старанны працаўнік, адзін з тых, дзякуючы якім якраз і адбываецца прыспяшэнне на будове, Станіслаў Анушка з ахвотай паказаў участак сваёй працы, машыну. Ён аказаўся вясёлым, жартаўлівым чалавекам.

— У „Ніве“ бываюць цікавыя кавалкі, — сказаў ён. — Люблю пачытаць. А дзеці мае заўсёды чытаюць „Зорку“. — А ўбачыўшы, што прымерваемся на яго з фотаапаратам, дадаў: — Што ж, рабіце, калі трэба. Няхай дзеці пабачаць, як бацька працуе.

**Яніна Чэрнякевіч**

Фота аўтара

## ГЛЕДЗЯЧЫ КАРЦІНЫ ГАРБАЛІНСКАГА

6 жніўня ў беластоцкай Галерэі сучаснага мастацтва адбыўся вернісаж мастака Веслава Гарбалінскага. Была гэта яго юбілейная выстаўка ў трыццацігоддзе творчасці. Нарадзіўся ён 2 студзеня 1927 г. Закончыў кракаўскую Акадэмію Мастацтваў (1948-54 г.г.) і аспірантуру ў Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры ў Ленінградзе (1954-57 г.г.). Затым пасяліўся жыць у Лодзі.

Цяперашнюю яго мастацкую выстаўку, упершыню такую вялікую, на якой паказаны таксама апошнія яго работы, маем магчымасць пабачыць у Беластоку. У ягонай творчасці з пяцідзесятых гадоў наглядаецца выразны ўплыў жывапісу іконы, у якой глыбіня рэлігійнага зместу адлюстроўвалася крайняй дысцыплінаванасцю сродкаў мастацкага выразу. У наступны перыяд творчасці Гарбалінскага бачым адыход ад уплываў іконнага жывапісу ў бок багатага дэталямі жывапісу, які нагадвае эпоху барока. Настрой у яго карцінах, асабліва важны для яго, ствараецца дзякуючы агульным тонам колернасці. У карцінах апошняга часу пераважае клімат настрою, які стварае ружовасць, часта бачым зеленавата-серабрыстыя тоны. У ранніх работах Гарбалінскага відаць вялікая насычанасць колерамі іконаў.

Вяслаў Гарбалінскі не стварае рэалістычных карцінаў, аднак выкарыстоўвае рэальныя элементы, супастаўляючы якія па-свойму, атрымлівае ў выніку новую „рэчаіснасць“, падобную на фантастыку сноў. Характар гэтых рэквізітаў паступова змяняецца. Элемент, які пастаянна паўтараецца ў яго работах, гэта антычная скульптура. У мастацкасці Веслава Гарбалінскага антычная скульптура выконвае ролю сімвалу, метафары, несмяротнасці мастацтва наогул.

Карціны Гарбалінскага, вядома, кожны ўспрымае на свой лад, паводле сваіх магчымасцяў, інтэлектуальных і псіхічных. Але кожны, хто ўмее глядзець на жывапіс, будзе пад уражаннем непаўторнае індывідуальнасці мастака. Гэткую магчымасць уласнага ўспрыняцця карцін Веслава Гарбалінскага трэба лічыць іх найвялікшай каштоўнасцю, калі мець на ўвазе метафарычнае мастацтва, бо такім яно для мяне і ёсць. **У. Петрук**

## „НАШЫ ПЕСНІ“

**Маладзёжная рада Беластоцка-Гданьскай праваслаўнай епархіі ў Беластоку выдала ўласным коштам невялічкі зборнічак папулярных песень. Вокладка зборніка ўпрыгожана беларускім крыжыкавым арнаментам, а яго загаловак — „Нашы песні“. У зборніку 25 беларускіх, украінскіх, рускіх песень, без нот, толькі словы. Мелодыі гэтых песень і так шырока вядомы.**

**Адкрывае зборнік песня „Беларусачка“ („Я гляджу на твае косы русыя...“), а зараз потым ідзе ўкраінская „Заспіваймо пісьню вэсэлэньку“. І гэтак уперамешку праз увесь зборнічак, выдадзены ў 800 экземлярах.**

**Гляджу на гэты скромны (а які ж патрэбны!) зборнік і думаю сабе: мала мовы, многа добрай работы. І добра, што знайшоўся выдаўца, ад якога можна павучыцца.** **(вв)**



### ШЛЯХАМ ГАДОЎ




Замірыўшыся з Маскоўскім княствам і падняўшы Пагоню, рушыў Кейстут у пачатку 1382 г. на крыжакоў. Тыя не спадзяваліся, што адразу пасля дзяржаўнага перавароту і ў вельмі складаным становішчы ў краіне вялікі князь літоўскі здолее іх непакоіць. Тым часам Кейстут нанёс ім адзін з найцяжэйшых удараў у дагэтуляшнім амаль 150-гадовым змаганні Вялікага княства з Ордэнам. Гарэлі крыжацкія сёлы і мястэчкі, рушыліся сцены мураваных крэпасцяў, на ўсход, за Нёман, пайшлі натоўпы палонных і абозы са здабычным дабром. Асабліва баявіта паводзілі сябе воі з Полаччыны, Дарагічыншчыны, Бельшчыны, якія палалі прагай помсты за нядаўнія злачынствы крыжакоў на іхніх землях. Гэта быў час, якога яны толькі і чакалі.

Крыжакі, спрабуючы адпомсціць Кейстуту, накіравалі ў Вялікае княства наспех сабраных рыцараў. Аднак вялікі князь не толькі разграміў іх, але следам за ўцякаючымі зноў увараўся ў крыжацкія ўладанні і нарабіў там не менш шкоды, чым некалькімі тыднямі раней. Кіраўніцтва Ордэна ўразумела, што Кейстуту неўзабаве будзе пад сілу не толькі паўстрымаць наступ крыжакоў на свой край, але і наогул разбіць іх і выгнаць з Прусіі і Лівоніі (Інфлянтаў). І зачасцілі ў Вялікае княства патаемныя крыжацкія дыпламаты, пасыпаліся абяцанкі, зазіхацела золата.

Нашчадкі Альгерда, адчуўшы крыжацкую падтрымку, схамянуліся і пачалі адмаўляцца ад падпарадкавання вялікаму князю Кейстуту. Адным з першых аб'явіў сваё непадпарадкаванне яму Карыбут-Дзмітрый князь ноўгарад-северскі, які панаваў на ўраджайных і даволі людных землях па рацэ Дзясне. Адлучэнне Ноўгарад-Северскага княства стварала значную пагрозу дзяржаве, бо яно межавала з Залатой ардой. Узбунтаванага Карыбута-Дзмітрыя падтрымліваў, мабыць, муж княгіні Марыі Альгердаўны — староста наваградскі Вайдзіла, спрыяў яму Ягайла, цяпер князь віцебска-крэўскі, прыхільна адносіліся таксама іншыя Альгердавічы.

Кейстут управіўшыся з крыжакамі, узяўся за пляменнікаў. У канцы мая 1382 года ён рушыў на ўсход, у Северскую зямлю. Па дарозе затрымаўся ў старажытным Наваградку і там нечакана схапіў Ягайлавага швагра і паплечніка Вайдзілу ды „сказаў павесіць на шыбеніцы“ — паведамляе „Хроніка літоўская і жамойцкая“. Гэтая жорсткасць, мабыць, не была выпадковай. Узлёты на самыя вяршыні грамадства і трагічнае адтуль падзенне Вайдзілы — гэта красамоўны прыклад лёсу надзвычай здольнага чалавека з нізоў у тыя часы. Аддайма голас



Публікі было, што не праціснуцца!



Заспявалі свае, чыжоўскія кабеты.

# СВЯТКАВАЛІ І ГУЛЯЛІ

Чыжы — вялікая і прыгожая мясцовасць, але 19 ліпеня была яшчэ прагажэйшай, па-святочнаму аздобленай, чыстай і ўпарадкаванай. І пагода была някепская, цёплая. Набліжалася Свята Адраджэння Польшчы! Рыхтаваўся фэст. Яго ініцыятарамі ўжо год назад былі Гмінны асяродак культуры і Гмінны аддзел Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Чыжах, у трыццацігоддзе тады БГКТ і „Нівы". І ад гэтае гадавіны фэст упісаўся ў лік пастаянных імпрэзаў у нашай мясцовасці.

Афіцыйная частка фэсту пачалася выкананнем гімна Польскай Дзяржавы, пасля чаго выдатныя жыхары нашай гміны былі ўзнагароджаны за заслугі. Гэта быў хвалюючы момант — у настроі сардэчнасці, віншаванняў, сёй-той узрушана праслязіўся нават. Затым выступіў з дакладам Э. Бай, старшыня гміннай рады ПРОНу.



Беластоцкія „Каласкі" нарабілі вялікай радасці ды ўцехі!

Мастацкая частка фэсту выпала багата і цікава. Выступіў чыжоўскі фальклорны калектыў пад кіраўніцтвам Галіны Мартынюк, інструктаркі асяродка культуры. Яна выкарыстоўвае вопыт, накоплены ў гайнаўскім беларускім хоры. За кароткі час здолела арганізаваць тут калектыў з займальнай праграмай.

З энтузіязмам прыняла чыжоўская публіка выступленне вядомых беластоцкіх „Каласкоў". Знакаміта спяваюць Люба Гаўрылюк і Юрка Налівайка! У „Каласкоў" дасканалы акампаніятар Сцяпан Копа, бойкае канферансье Валянціны Ласкевіч. Публіка бісавала ім, не сціхаючы! Давялося яшчэ раз выступіць, з дадатковым канцэртам.

Своеасаблівай чароўнасці імпрэзе прыдала народная капэла з Васількова, якой, ужо трынаццаты год, кіруе Ю. Твардоўскі. Варта прыгадаць, што на чыжоўскім фэсце гэтая капэла адзначала сваё юбілейнае, пяцісотае выступленне, таму адбылася сімпатычная малая ўрачыстасць: уручаліся васільскоўцам кветкі і праспявалі ім польскае „сто лят", зычачы далейшых удач.

Арганізатары фэсту наладзілі гандлёвыя ларкі для публікі, у якіх можна было паласавацца дэлікатэсамі. Няблага прайшоў і кірмаш кніжак на беларускай мове, якія асабліва купляла моладзь, наша нацыянальная будучыня. А пасля ўсяго — музыкі да самае раніцы, іграў і спяваў калектыў з Чыжоў. Шмат-каму з чыжоўцаў фэст быў і сямейным святам, наз'язджаліся сваякі адусюль, некаторыя аж з глыбокай Польшчы: сустрэчы, гутаркі, якім не было канца.

А ўсё ў сардэчным, беларускім настроі.

**Юрка Якімюк**

Здымкі Славаміра Галёнкі

---

„Хронікі Быхаўца":

„Быў нейкі халоп у вялікага князя Альгерда, парабак нявольны, звалі яго Вайдзілам, — паведамляе храніст. — Спачатку быў пекарам, потым князь паставіў яго пасцель сабе слаць і ваду падаваць піць. Затым ён надта ж палюбіўся яму і даў яму трымаць Лідскую зямлю ды выводзіў яго ў дабро. Потым, гадоў са два ці болей пасля смерці Альгерда, вялікі князь Ягайла вельмі высока ўзняў Вайдзілу і выдаў за яго сваю родную сястру княгіню Марыю, якая раней была за князем Давідам. Гэтым цяжкую знявагу і прыкрасць князю Кейстуту ўчыніў, што пляменніцу князеву і сваю сястру за халопа выдаў. І меў той Вайдзіла вялікую ўладу ў вялікага князя Ягайлы. Пачаў ён з немцамі сеймы заводзіць ды граматамі перапісвацца супраць вялікага князя Кейстута. А нехта комтур аструдскі Лебенштэйн... паведаміў вялікаму князю Кейстуту: „Ты таго не ведаеш, як князь вялікі Ягайла пасылае часта да нас Вайдзілу і ўжо ўзгодніў з намі, як цябе ссадзіць з тваіх уладанняў, а каб дасталіся яму з сястрою вялікага князя Ягайлы..."

Як там было ў сапраўднасці — застаецца неразгаданай таямніцай. Пэўнае толькі тое, што крыжакі па-майстэрску перахітрылі старэчу Кейстута, і за здраду свайго пана заплаціў жыццём яго слуга.

Але Вайдзілава смерць дорага абышлася Кейстуту. Княжна Марыя зусім не адчувала сябе ашчаслівуленай гэтым дзядзькавым „вызваленнем" яе з замужжаства з „халопам", а перажыла вялікае асабістае і сямейнае гора, бо Кейстут, даючы волю сваёй дынастычнай ганарлівасці, пазбавіў жыцця чалавека, якога яна проста кахала, ды асіраціў яе дзяцей. Гэты ўчынак яшчэ болей узмацніў лютую нянавісць усіх Альгердавічаў да Кейстута і прагу любой цаной пазбыцца яго. Такім чынам круг заядлых ворагаў старога князя пашыраўся, мацнеў і толькі чакаў нагоды, каб заатакаваць яго. А нагода надарылася зараз жа.

Расправіўшыся з Вайдзілам ды падпарадкаваўшы сваёй „волі" Навагрдчыну, Кейстут рушыў у адлеглае Ноўгарад-Северскае княства, каб скарыць мяцежнага Карыбута — Дзмітрыя Альгердавіча. Таксама даў загад Ягайлу ісці разам з ім, але той выкруціўся нечым і на Ноўгарад-Северскі не пайшоў і даў знаць брату, што яму пагражае. Карыбут асцярогся ды належна падрыхтаваўся на прыём гэтай карнай экспедыцыі. Дапамогу яму падкінуў брат Уладзімір Альгердавіч — тадышні князь кіеўскі, спрыялі таксама Ягайла і іншыя Альгердавічы, з дапамогай паспяшаліся і татары. Нешматлікім Кейстутавым атрадам дарогу ў Ноўгарад-Северскі пераступіла мажная армія, заядла абараняліся крэпасці і скарэнне Севершчыны не толькі зацягнулася, але і стала вельмі цяжкім.

Тым часам іншыя Кейстутавы ворагі таксама не драмалі. Падбухтораныя крыжацкімі і Ягайлавымі агентамі „местичи виленскыи" (віленскія мяшчане) на чале з мяшчанскім верхаводам немцам Ганулем 12 чэрвеня 1382 г. хітрасцю захапілі віленскі замак і да нагі выразалі яго невялікі гарнізон. Неўзабаве з'явіўся ў Вільні Ягайла і „сеў на пасадзе вялікага князя" — як маўлялі ў тыя часы. На дапамогу яму „раццю вялікаю" (так паведамляе „Віленскі летапіс") рушылі лівонскія і прускія рыцары.

Ці шчаслівым збегам акалічнасцей, ці прадбачваючы небяспечны паварот справы ў краіне, але Вітаўт у той час не быў у Вільні, ён знаходзіўся ў суседніх Троках і сам спрабаваў ліквідаваць пераварот. За некалькі дзён сабраў, каго толькі змог, з наваколля Трокаў, і ўдарыў на Вільню. Аднак Ягайлавы войскі, якія складаліся ў асноўным з загартаваных у баях беларускіх дружыннікаў з Віцебшчыны, Полаччыны і Міншчыны, разгромілі Вітаўтава апалчэнне. Тады Вітаўт падаўся са сваёй і бацькавай сем'ямі і дварамі ў Горадню.

І гэта быў пачатак цяжкіх і трагічных Вітаўтавых бадзянняў праз усё наступнае дваццацігоддзе.

**Мікола Гайдук**

Без песні — хоць трэсні!

## СВЯТЛО ТВАІХ ВАЧЭЙ

Словы І. Скурко
Муз. У. Будніка



Прасіў цябе на развітанне, —
Пішы, каб шлях закрыць журбе.
І пішам мы, як сумна стане,
Ты — да мяне, я — да цябе.

Жаданы воблік не растане,
Хоць колькі часу не міне, —
Мы будзем думаць у расстанні —
Я — пра цябе, ты — пра мяне.
Я — пра цябе, ты — пра мяне.

Мы не забудзем той хвіліны,
Калі сказалі мы сабе:
Адна, адзіная... адзіны
Ты у мяне, я у цябе.

Святло тваіх вачэй мне свеціць, —
Яно — другое сонца мне!
І мы жывём з табой на свеце,
Я — для цябе, ты — для мяне,
Я — для цябе, ты — для мяне.



Без слоў.

# НІЎКА

## ДЫЛЕМА

Адзін юнак вырашыў стаць акцёрам.

— Ты? На сцэну? — здзівіўся бацька. — А як даведаюцца суседзі?

— Дык можна змяніць прозвішча, — адказаў хлопец.

— А калі ты станеш слаўным, як даведаюцца суседзі?

## ПЫТАННЕ

— Не трэба, бабуля, жартаваць са здароўем. Беражыцеся халоднай вады, больш адпачывайце.

— Як жа мне берагчыся, доктар, калі не даеце лекарскага звальнення.

— Не разумею! Навошта яно вам? Вы ж, пэўна, ужо на пенсіі.

— А як жа мне паверыць нявестка, што я хворая?



— Абрыдла, увесь водпуск дождж.

## ДАКЛАДНЫ

Гадзіннікавы майстар гаворыць кліенту:

— Гэты гадзіннік трэба заводзіць два разы на дзень.

— Перад ядою ці пасля?

## ГУЗ

— Чаму ў цябе такі гуз на лбе?

— Ад насмарку.

— Не разумею...

— А што ж тут разумець — чхнуў каля слупа.

## ЗДЗІВІЎ

Вадзіцель падвозіў дзядулю ў горад.

— Ці змог бы ты ехаць за рулём, калі б выпіў чарку? — спытаў дзядуля.

— Змог бы, — адказаў той.

— А калі б дзве?

— Змог бы.

Трохі памаўчаўшы, дзядуля зноў спытаў:

— А калі б тры чаркі выпіў?

— Чаго ты прыстаў, стары? — разлаваўся вадзіцель. — Бачыш жа — еду!



**Знаў сабе цану — яму прышылі ярлык.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Малпа сядзела на беразе ракі і сканцэнтравана паласкала ў вадзе бананавую лупіну. Праплываючы кракадзіл доўга глядзеў на яе і ўрэшце спытаў:

— Скажы, што гэта ты робіш? Ніяк сцяміць не магу.

— Дай долар, тады скажу.

— Добра, на, скажы толькі.

Малпа спрытна схавала долар і сказала:

— Бачыш, палашчу бананавую лупіну.

— І ўсё?

— І ўсё.

— Ну і дурная ж ты!

— Можа, і дурная, а без трыццаці долараў ні разу не адыходзіла.

*

Артыст, якому няма чым плаціць за кватэру, пераконваў гаспадара:

— Праз дваццаць год прахожыя будуць паказваць на ваш дом і казаць: „Тут жыў Даўбер!"

— Калі вы не спláціце доўг, прахожыя будуць казаць гэта ўжо заўтра!

Баечка

## БУСЕЛ І ПІТОН

Ускліпнуў Бусел,
Убачыўшы Пітона:
— Вось дык здабыча,
Мабыць, аж з паўтоны.

А Пітон на дрэве
Слухаў Буслаў спеў,
Потым разлаваўся,
Узяў яго і з'еў.

Генрых Кутас

З „Весніка Задрыпоніі"

## РАЙ У БУДАНЕ

— З табою, мілая, мне ніякіх палацаў не трэба, — заявіў сваёй знаёмай гр. Казановіч і наадрэз адмовіўся ісці рэгістравацца з ёю ў Палац шлюбаў.

## ПАРАДА

Каб вам не хацелася есці часцей — ешце часцей.

З суседскага агародчыка.




## ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ

Што і казаць, ва ўсіх свае звычкі. Вось, напрыклад, шэсць коз — самыя звычайныя, пасуцца сабе ў пяньку. А сёмая, каза Дзераза, на сонцы. Менавіта яе цень аказаўся на левым верхнім вутлу малюнка. Думаем, што на гэтым цяні вам і ўдасца адшукаць свавольніцу.

# Курёзы

## ГЕРАНТАЛОГІЯ ДЛЯ БАРАНОЎ

Руплівы англійскі фермер Дэйв Браўн з Эрфарда не мог без суму глядзець, як баранаў на яго ферме спатыкае звычайна баранаў лёс: у акрэсленым узросце ў іх сціраюцца зубы, жывёла не можа паўнацэнна карміцца, а таму і асуджана на галодную смерць. І гэта зусім здаровыя мерыносы, якім бы жыць ды жыць, і быць стрыжанымі!

І вось па заказу Браўна швейцарскія спецыялісты падрыхтавалі партыю металічных сківіц для старых бараноў. Фермер і яго работнікі хутка навучыліся ўстаўляць сваім падапечным новыя зубы, што прадоўжыла жыццё сотням жывёлін.

## З ЖЫЦЦЯ ВЯЛІКІХ

Аднойчы за з'едлівую эпіграму на рэгента-герцага Арлеанскага Вальтэра пасадзілі ў Бастылію. Пасля вызвалення рэгент прыняў яго і лісліва запытаўся:

— Ці не маеце вы ў чым патрэбу?

— Адзінае, аб чым я прашу ваша правасхадзіцельства, не пакутаваць больш клопатаў аб маім жытле, — адказаў Вальтэр.




**Галоўнае не тое, чаго дасягнуў, а тое, ад чаго адмовіўся.**